Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны

№ 5 (травень), 2013

# Мяжа



## Алесь Беляцкий переизбран вице-президентом FIDH

(Старонка 12)

# ЗЬМЕСТ

# «Вясна» патрабуе адмяніць «палітычны» артыкул 193.1 КК

Праваабарончы цэнтр «Вясна» заклікае спыніць практыку ціску на грамадзкіх актывістаў і прыняць меры да адмены арт. 193.1 КК.

На працягу апошніх двух месяцаў Праваабарончым цэнтрам «Вясна» было зафіксавана павелічэнне выпадкаў вынясення органамі пракуратуры і КДБ афіцыйных пісьмовых папярэджанняў аб недапушчальнасці дзейнасці ад імя незарэгістраваных арганізацый у дачыненні да шэрагу грамадскіх актывістаў і праваабаронцаў, гаворыцца ў заяве праваабаронцаў.

18 красавіка 2013 года Пракуратура Бярозаўскага р-на Брэсцкай вобласці вынесла папярэджанне за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі актывісту грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Аляксандру Кузьміну.

24 красавіка 2013 года Генеральная пракуратура Рэспублікі Беларусь вынесла пісьмовае папярэджанне аб недапушчальнасці дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі праваабаронцы Тамары Сяргей.

29 красавіка 2013 года ў г. Магілёве на прафілактычную размову ва УКДБ па Магілёўскай вобласці ў сувязі з дзейнасцю ад імя незарэгістраванай арганізацыі быў выкліканы мясцовы актывіст партыі БХД Алег Аксёнаў, які ў кастрычніку 2012 года быў пастаўлены на прафілактычны ўлік КДБ за ажыццяўленне такой дзейнасці.

Усе вышэйназваныя асобы былі папярэджаныя аб магчымым прыцягненні да крымінальнай адказнасці па арт. 193.1 КК Рэспублікі Беларусь, санкцыя якога прадугледжваюць адказнасць у выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да двух гадоў.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» нагадвае, што свабода асацыяцый гарантаваная грамадзянам Беларусі арт. 36 Канстытуцыі. Згодна з арт. 23 Канстытуцыі абмежаванне правоў і свабод асобы дапускаецца толькі ў выпадках, прадугледжаных законам, у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку,

абароны маральнасці, здароўя насельніцтва, правоў і свабодаў іншых асобаў. Таксама арт. 5 Канстытуцыі ўтрымлівае вычарпальны пералік дапушчальных абмежаванняў свабоды асацыяцыяў: забараняецца стварэнне і дзейнасць палітычных партый, а роўна і іншых грамадскіх аб'яднанняў, якія маюць на мэце гвалтоўнае змяненне канстытуцыйнага ладу, ці вядуць прапаганду вайны, сацыяльнай, нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці.

«Зыходзячы з канстытуцыйных гарантый і дапушчальных абмежаванняў, відавочна, што наяўнасць крымінальнай адказнасці толькі за факт дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі з'яўляецца парушэннем гарантаванай Асноўным законам свабоды асацыяцый», - лічаць праваабаронцы.

15 кастрычніка 2011 года Еўрапейская камісія за дэмакратыю праз права Рады Еўропы (Венецыянская камісія) падрыхтавала заключэнне, згодна з якім арт. 193.1 КК Рэспублікі Беларусь быў прызнаны не адпаведным палажэнням Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах і іншым міжнародным абавязацельствам, якія ўзяла на сябе Рэспубліка Беларусь.

Варта нагадаць, што на працягу 2008-2010 гг. службовыя асобы Міністэрства юстыцыі і Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі неаднаразова заяўлялі пра магчымасць адмены дадзенага артыкула Крымінальнага кодэкса.

У сувязі з гэтым Праваабарончы цэнтр «Вясна» ў чарговы раз заклікае ўлады Беларусі спыніць практыку ціску на грамадзкіх актывістаў і прыняць меры да адмены арт. 193.1 КК і дэкрыміналізацыі дзейнасці незарэгістраваных арганізацый.

Арт. 193.1 КК Рэспублікі Беларусь (незаконная арганізацыя дзейнасці грамадскага аб'яднання, рэлігійнай арганізацыі або фонду, або ўдзел у іх дзейнасці), караецца штрафам, або арыштам да шасці месяцаў або пазбаўленнем волі на тэрмін да двух гадоў.

З 2006 вядома аб 18 выпадках прыцягнення да крымінальнай адказнасці па дадзеным артыкуле.

У лютым 2011 г. Генеральная пракуратура Рэспублікі Беларусь вынесла пісьмовае папярэджанне аб недапушчальнасці дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесю Бяляцкаму.

*charter97.org/be/news/2013/5/2/68717/*

## У Берасці прайшло першамайскае шэсце

“Сёння расійская ваенная база – заўтра 22 чэрвеня”, “Кошт навучання ў ВНУ прывязаць да ўзроўня інфляцыі!”,”Цвіль у дзіцячай бальніцы – хто вінаваты?”, ”Народны кантроль – выбары, грошы, улада” і так далей. З такімі плакатамі і лозунгамі выйшлі прадстаўнікі дэмакратычніх сілаў у Берасці на першамайскую дэманстрацыю. На думку ўдзельнікаў акцыі, такое мерапрыемства – гэта не толькі Міжнародны дзень салідарнасці працоўных, але і магчымасць выказаць сваю нязгоду з сацыяльна-эканамічным станам Беларусі і яе палітыкай:

- Захацелася пабачыць аднадумцаў, падыхаць хоць крыху паветрам дэмакратыі.

- Упершыню за многія гады сёння можна легальна выказаць пратэст супраць цяперашняга стану і беларускай эканомікі, і беларускай палітыкі. Жыве Беларусь!

- Гэта паказвае тое, што людзі хочуць дэмакратыі, хочуць быць вольнымі. Тыя ўлады, якія намі кіруюць, трэба, каб прыслухоўваліся да нас. Таму што на самой справе мы іх выбіраем. І таму яны павінны слухаць наш голас.

Акцыя была дазволена гарадскімі ўладамі за подпісам старшыні Берасцейскага гарадскога выканаўчага камітэта Вячаслава Хафізава. Арганізатарам яе выступілі прадстаўнікі дэмакратычнай супольнасці горада над Бугам.

* * *

Шэсце ў Берасці было дазволена гарадскімі ўладамі. Калона рухалася ад перакрыжавання бульвара Касманаўтаў і вуліцы Машэрава да плошчы Леніна. Шэсце працягвалася каля гадзіны. Усяго ў мітынгу прыняло ўдзел каля 200 чалавек. Затрыманняў і

перашкодаў з боку праваахоўных органаў не было. Адзін з арганізатараў мерапрыемства, старшыня берасцейскай абласной арганізацыі БСДП (Грамада) Ігар Маслоўскі выказаўся пра вынікі мерапрыемства:

– Акцыя, што прайшла па цэнтральным вуліцам горада Берасця



– поўнафарматная акцыя. Тыя, хто сёння прыйшоў, прыйшоў выказаць свой пратэст, у тым ліку супраць сацыяльна-эканамічнага становішча ў нашай краіне. Гэтыя людзі прыйшлі паўдзельнічаць у дзяржаўным святе і Міжнародным дне салідарнасці працоўных. Усе, каля 200 чалавек, як мы і планавалі, прыйшлі, выказалі салідарнасці і мы ім удзячныя за гэта.

У акцыі прымалі ўдзел актывісты Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай партыі (Грамада), партыі левых «Справядлівы свет», БНФ, актывісты кампаніі «Гавары праўду», Прафсаюзы Радыёэлектроннай прамысловымі, Незалежныя Прафсаюзы Беларусі, а таксама жыхары і госці горада над Бугам.

Акцыя, прысвечаная 1 мая, была дазволеная гарадскімі ўладамі ўпершыню за апошнія 11 год.

*racyja.eu/index.php?id=104&zoom=13489#.UYLJKYZb9aV*

# На думку «Вясны» сытуацыя з правамі чалавека пагоршылася

Даючы рэкамэндацыі адносна паляпшэньня адносін паміж Эўразьвязам і Беларусьсю, дакладчык Эўрапейскага парлямэнту па Беларусі Юстас Палецкіс спасылаецца на тое, што ў 2012 годзе ў Беларусі адбылося «прыкметнае паляпшэньне сытуацыі з выкананьнем правоў чалавека».

Мы запыталі спадара **Палецкіса**, на аснове якіх зьвестак ён зрабіў такую выснову. Ён адказаў:



Юстас Палецкіс

Юстас Палецкіс «У асноўным я працую ў Брусэлі і Страсбуры ды, зразумела, дома ў Вільні, і мне цяжка самому меркаваць, паляпшаецца ці пагаршаецца сытуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. У такім выпадку даводзіцца абапірацца на зьвесткі тых арганізацый, якія гэтым займаюцца. Калі я быў у Менску ў сакавіку, я правёў вельмі грунтоўныя гутаркі з кіраўнікамі арганізацыі «Вясна» і Хэльсынскага камітэту, якія займаюцца правамі чалавека. Яны сказалі, што паводле іх назіраньняў, у 2012 годзе, у параўнаньні з папярэднім годам, узровень рэпрэсій – як яны выказаліся, маючы на ўвазе, відаць, арышты,ператрусы, выклікі ў акрэсьленыя інстанцыі – паменшыўся ў тры разы. Па-другое, яны мне паведамілі, што летась не было вынесена ні аднаго сьмяротнага прысуду, хоць было выканана некалькі такіх прысудаў. Гэта яны ацанілі як магчымыя спробы Беларусі вярнуцца ў Раду Эўропы».

**АР**: Хачу нагадаць, што кіраўнік Вясны якраз знаходзіцца ў турме, яго лічаць палітвязьнем.

**Палецкіс**: Я добра гэта ведаю, і самае галоўнае ў дакладзе — як перадумова для любога дыялёгу, любога паляпшэньня адносінаў —

**гэта безумоўнае вызваленьне і палітычная рэабілітацыя ўсех палітвязьняў**. Але «Вясна» дзейнічае і не зьніжае сваёй актыўнасьці.

Мы зьвярнуліся да Тацяны Равякі, сябры Рады праваабарончага цэнтру «Вясна», і папрасілі яе пракамэнтаваць выказваньне спадара Палецкіса. Вось што яна нам сказала:

«Я ведаю, што Валянцін Стэфановіч, як і іншыя праваабаронцы, сустракаўся са спадаром Палецкісам у сакавіку. Сёньня сытуацыя ўжо іншая, чым у сакавіку. Але пасьля гэтага ўжо быў вынесены і сьмяротны прысуд. За гэты час таксама адбыліся зьмены, якія можна назваць тэндэнцыяй да пагаршэньня. Калі яшчэ ў той час можна было казаць пра нейкі застой у сытуацыі з правамі чалавека, то зараз мы фіксуем тэндэнцыю да пагаршэньня. Тое, што ў 2012 годзе не было сьмяротных прысудаў – гэта так, але заставаліся палітвязьні і заставаліся людзі, якія адбывалі пакараньне ў форме абмежаваньня волі. Некаторых зь іх яшчэ чакае суд. Казаць пра тое, што на нашых высновах збудаваная выснова спадара Палецкіса пра паляпшэньне сытуацыі з правамі чалавека – не зусім справядліва, улічваючы нашу дастаткова цьвёрдую пазыцыю па пытаньнях датычных правоў чалавека, як палітвязьняў, так і іншых, і са свабодай выказваньня, і з забесьпячэньнем свабоды сходаў, і са сьмяротным пакараньнем. Мы гаворым, што сёньня стала горш».

*www.svaboda.org/content/article/24993038.html*

## Берасцейцы патрабуюць пакараць чыноўнікаў за разбітыя дарогі

У Берасцейскі аблвыканкам адпраўленая скарга на дзеянне гарадскіх улад, якія праігнаравалі калектыўны зварот жыхароў абласнога цэнтра.

Як ужо паведамляў сайт charter97.org, яшчэ ранняй вясной жыхары берасцейскага мікрараёна Паўднёвы, абураныя станам дарог, пачалі збор подпісаў, каб дамагчыся рамонту паўкіламетровага адцінка вуліцы Ракасоўскага і трасы, якая злучае яе з вуліцай Жукава. На гэтым адцінку група энтузіястаў налічыла

тысячу ямін, выбоін ды іншых пашкоджанняў дарожнага палатна. Адначасова ў калектыўным звароце, пад якім паставілі свае подпісы «за» 1100 чалавек, паказвалася, што на згаданым адцінку няма ходнікаў, хоць у суседстве размешчаная гімназія № 6. У выніку дарога, якая знаходзіцца ў аварыйным стане са жвавым рухам аўтамабіляў, з'яўляецца фактарам падвышанай рызыкі для жыцця і здароўя навучэнцаў.

Зварот з патрабаваннем зрабіць захады і прывесці ў належны стан дарожнае пакрыццё названых адцінкаў (а таксама прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці асоб, якія дапусцілі парушэнне заканадаўства) быў накіраваны гарадскім уладам і кіраўніцтву ДАІ Берасцейскай вобласці. Як распавёў карэспандэнту charter97.org адзін з ініцыятараў звароту Ігар Маслоўскі, у адказе з мясцовага гарвыканкама сцвярджалася, што з надыходам спрыяльных варункаў надвор'я, камунальнымі службамі будуць выкананыя рамонтныя работы дарожнага пакрыцця на названай тэрыторыі.

«Сапраўды ў канцы красавіка такія рамонты пачаліся, - паведаміў Маслоўскі. - Аднак цяпер працы не праводзяцца, а бягучы рамонт дарожнага палатна (якога практычна няма) так і не зроблены: замененыя толькі бардзюры на адцінку дарогі паміж вуліцамі Ракасоўскага і Жукава. На самой жа вуліцы Ракасоўскага наогул ніякіх работ нават не пачыналася».

Што ж да ходнікаў паблізу гімназіі № 6, то з адказу гарадскіх чыноўнікаў вынікае, што ўпарадкаваць яго не будуць. І гэта нягледзячы на тое, што цяпер жыхарам мікрараёна, каб не ставіць сябе пад небяспеку, даводзіцца выходзіць на праезную частку, бо суседняя тэрыторыя агароджаная плотам, дзе распачатае будаўніцтва праваслаўнага храма.

Са слоў Ігара Маслоўскага, людзі засталіся незадаволеная такім адказам гарадскіх чыноўнікаў і цяпер накіравалі скаргу абласным уладам, бо мяркуюць, што ў парушэнні артыкула 9 Закона РБ «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» Берасцейскім гарвыканкамам не зробленыя захады для поўнага, аб'ектыўнага, усебаковага разгляду звароту. Бо замест гэтага ў адказе прыводзіцца інфармацыя аб інтэрв'ю старшыні гарвыканкама

Аляксандра Палышанкова адной з мясцовых газет.

Цяпер жыхары Берасця ў сваёй скарзе патрабуюць ад аблвыканкама не толькі прывесці дарожнае пакрыццё на вуліцы Ракасоўскага ў адпаведнасць з нормамі і абсталяваць перакрыжаванне з вуліцай Жукава ходнікам для бяспечнага руху пешаходаў, але і прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці асоб, якія дапусцілі парушэнне заканадаўства.

*charter97.org/be/news/2013/5/14/69187/*

## Старшыня Белаазёрскага гарвыканкама ігнаруе зварот 40 жыхароў горада

Жыхары дома 11/1 па праспекце Міра Белаазёрску, з якіх гарвыканкам патрабуе заплаціць вялікую суму за каробку дома праз 20 гадоў пражывання ў ім, папрасілі старшыню гарвыканкама Вячаслава Дамброўскага прадаставіць ім дакументы па смеце гэтай каробкі, паколькі лічаць суму надта вялікай. Але прайшло больш за месяц, а людзі адказу не атрымалі.

У выніку старшыня жыллёвага каператыва дома № 11/1 Эдурд Яцкевіч быў вымушаны звярнуцца да пракурора Бярозаўскага раёна, каб пракуратура запатрабавала ад старшыні гарвыканкама выконваць “Закон аб звароце грамадзян” (арт 17.ч. 2), дзе сказана, што адказ павінен быць дадзены на працягу месяца.

*spring96.org/be/news/63165*

## Настаўнік адгаворвае вучняў ад здачы экзамена па беларускай мове

У сярэдняй школе № 4 горада Івацэвічы адбыўся канфлікт у адным з выпускных класаў. Больш за палову вучняў класа абрала беларускую мову як экзамен па выбары.

Але гэта не ўзрадавала іх настаўніка па беларускай мове. Выкладчык настойліва параіў сваім вучням перапісаць заявы на іншыя прадметы, што абурыла многіх вучняў, а таксама сябра Таварыства беларускай мовы Аркадзя Курыса, якому стаў вядомы гэты факт.

Па словах Курыса, невядома, чаму настаўнік так паступіў. Ці наогул сам не любіць свой прадмет і знішчае беларушчыну, ці

дрэнна ведаюць вучні прадмет. І настаўнік не хоча публічна паказаць вынікі сваёй працы. Але ў любым выпадку ў такога настаўніка маладыя людзі не тое, што не будуць любіць беларускую мову, а будуць цурацца яе і ўцякаць.

Сам настаўнік патлумачыў сваю пазіцыю тым, што не ўсе з гэтых 15-ці вучняў, якія напісалі заявы на здачу экзамена па беларускай мове, змогуць здаць экзамен паспяхова. Таму і параіў выбраць іншы прадмет.

*spring96.org/be/news/63143*

## Берасцейцам адмовілі ў пікеце памяці Юрыя Захаранкі

Ушанаваць памяць і нагадаць пра зніклага палітыка Юрыя Захаранку не дазволілі берасцейскія ўлады. Сябры Аб'яднанай Грамадзянскай партыі атрымалі адмовы ў правядзенні пікетаў. Усяго па вобласці планавалася правесці 14 інфармацыйных мерапрыемстваў, паведаміў старшыня абласной арганізацыі АГП Уладзімір Вуек. Асноўныя прычыны забароны – адсутнасць дамоваў і забарона правядзення пікетаў у цэнтры Берасця.

- Мы звяртаем увагу на тое, што ў Беларусі не вядзецца расследаванне па справе зніклых людзей, зніклых палітыкаў. Вядома, улады будуць нам перашкаджаць і ўсяляк адмаўляць. У прынцыпе, так яны і зрабілі, парушаючы пры гэтым наша канстытуцыйнае права на мірныя сходы, шэсці, пікеты.

«Грамадзяне мусяць ведаць, што ў нашай краіне ёсць зніклыя палітыкі і што расследаванне гэтых спраў не даведзена да лагічнага завяршэння», - падагульніў Уладзімір Вуек. Пікеты планавалася правесці 7 траўня. У гэты дзень у 1999 годзе Юры Захаранка знік.

*racyja.eu/index.php?id=104&zoom=13591#.UYV2j4Zb9aV*

## Як супрацьстаяць міліцэйскаму гвалту?

Цягам двух дзён праваабаронцы з розных арганізацый распавядалі жыхарам Пінска, як паводзіць сябе пры затрыманні міліцыяй альбо супрацоўнікамі Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Сустрэча зацікавіла ня толькі грамадскіх актывістаў, прысутнічала

шмат студэнтаў, маладзёнаў.

Арганізатар сустрэчы грамадска-палітычны актывіст Віталь Каратыш паведаміў, што такія мерапрыемствы не першы год ладзяцца па ўсёй краіне і маюць попыт:

- Кансультацыйная сустрэча, дзе сябры праваабарончых арганізацый, эксперты, юрысты распавядаюць актывістам грамадскіх арганізацый, моладзі як бараніць сябе ў выпадку супрацьпраўных дзеянняў супрацоўнікаў міліцыі і іншых спецслужбаў. Насамрэч, вельмі карысная інфармацыя нават у паўсядзённым жыцці.

Праваабаронцы прыводзілі розныя прыклады, падзяліліся з пінчукамі асабістым досведам затрымання. Усім удзельнікам сустрэчы прэзентавалі дыскі з карыснай інфармацыяй і інфармацыйныя бюлетэні.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=14305#.UaWuiIZb9aV*

## Алесь Беляцкий переизбран вице-президентом FIDH

Белорусский правозащитник Алесь Беляцкий переизбран вице-президентом Международной федерации прав человека (FIDH) на 38-м конгрессе FIDH 27 мая в Стамбуле.

Президентом FIDH избран иранский адвокат Карим Лахиджи. Он сменяет на этом посту Сухайр Белхассен, которая возглавляла организацию в течение шести лет. Впервые в своей истории FIDH будет возглавлена выходцем из Ирана, пишет БелаПАН.

"Для меня огромная честь быть избранным президентом FIDH, — заявил Лахиджи. — Мое первое послание обращено ко всем правозащитникам, которые во всем мире произвольно содержатся в заключении. Мы будем неуклонно продолжать требовать их скорейшего и безусловного освобождения. Я думаю, в частности, о моих коллегах и друзьях, Алесе Бяляцком и Набиле Раджабе, томящихся в тюрьмах Беларуси и Бахрейна".

FIDH увеличила свой состав с 164 до 178 лиг. Кроме того конгресс принял 26 резолюций, касающихся, в частности, Мали, Сирии, Малайзии, Кубы, России и Турции.

Помимо избрания нового состава международного бюро FIDH, конгресс определил основные направления работы организации на предстоящие три года.

50-летний Алесь Беляцкий отбывает наказание в исправительной колонии № 2 Бобруйска по приговору суда. 24 ноября 2011 года суд признал его виновным в сокрытии доходов в особо крупном размере и приговорил к четырем с половиной годам лишения свободы в колонии усиленного режима с конфискацией имущества. Основанием для уголовного преследования Беляцкого стало наличие у него счетов в банках Литвы и Польши. Суд не учел, что поступающие на них деньги использовались для правозащитной деятельности.

*www.charter97.org/be/news/2013/5/27/69868/*

## Спецслужбы стварылі свае «правааабарончыя» арганізацыі?

У Брусэлі і Страсбургу з’яўляюцца невядомыя праваабарончыя арганізацыі з Беларусі «Відаць, гэта Міністэрства замежных спраў накіроўвала», — расказваюць у адной з такіх праваабарончых арганізацый пра візіт у Страсбург.

Нечаканае адкрыццё зрабіла для сябе праваабаронца Алена Танкачова: наша грамадзянская супольнасць нашмат багацейшая, чым ёй падавалася! Адкрыццё гэта яна зрабіла падчас нядаўняга візіту ў Страсбург на пасяджэнне Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы:

«Адным з прадстаўнікоў у рамках гэтай групы быў спадар, які прадстаўляўся праваабарончай арганізацыяй «Public associationn for protection of human rights».

Якая, паводле яго слоў, больш за 10 гадоў ажыццяўляе сваю дзейнасць на базе Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта і, нібыта, у гэтую арганізацыю аб’яднаныя прадстаўнікі акадэмічнай супольнасці — выкладчыкі права і іншых гуманітарных дысцыплін».

Здаецца, ні пра гэтую арганізацыю, ні пра яе дзейнасць ніколі нічога не было чуваць.

Нават Google не дапамог выправіць гэтую недарэчнасць! Гэта не было б дзіўна, абураецца Танкачова, калі б праваабарончая арганізацыя была дзяржаўнай. Але Аляксей Траццякоў, які прадстаўляў "Public association", сцвярджае, што яны — недзяржаўныя.

Аднак Еўрарадыё знайшло ў Брэсце і гэту невядомую «Public associationn for protection of human rights», і яе кіраўніка. Ім апынуўся выкладчык Брэсцкага ўніверсітэта імя Пушкіна Іван Котляр. Яна сапраўды існуе з 1996 года. А што да актыўнасці…

Іван Котляр: «Пакуль яна (арганізацыя) займаецца тым, што садзейнічае выкладанню, адукацыі ў галіне правоў чалавека.

Дапамагае праводзіць канферэнцыі, семінары, якія штогод праходзяць у нашым універсітэце».

Але ж арганізацыя — рэспубліканская! І вось некалькі месяцаў таму, пасля чарговага пераабрання на пасаду кіраўніка гэтай «праваабарончай» арганізацыі, Котляр прымае валявое рашэнне:

«Прынятае рашэнне зрабіць арганізацыю паўнавартаснай — каб яна займалася і юрыдычнай абаронай, і інфармацыйнымі справамі...»

Сцвярджае, што ідэя гэтая прыйшла яму ў галаву без падказкі збоку. Відаць, першым крокам на шляху такой рэарганізацыі і стала прысутнасць прадстаўніка "Public association" у Страсбургу. Але чаму гэта быў не кіраўнік арганізацыі, а чалавек, якога зусім нядаўна ўвялі ў аргкамітэт?

Іван Котляр: «Ну, гэта не ад нас, я не ведаю — відаць, гэта Міністэрства замежных спраў яго накіроўвала...».

З'яўленне на пасяджэнні Рады Еўропы нікому не вядомай «праваабарончай» арганізацыі Танкачова звязвае з пошукам еўрачыноўнікамі «кампраміснай прадстаўленасці на пляцоўцы беларускай грамадзянскай супольнасці».

Алена Танкачова: «Будзем бліжэйшы час сведкамі таго, што будуць з'яўляцца прадстаўнікі ілжэграмадскіх арганізацый з ілжэмэтамі, і мы павінны быць да гэтага гатовыя».

Самае абуральнае, тлумачыць сваю рэакцыю праваабаронца,

што яны «хаваюцца» за недзяржаўнасць: няхай бы казалі праўду, што яны прадстаўнікі праўладных арганізацый, і шчыра адстойвалі ў дыскусіях пазіцыю рэжыму.

*nn.by/?c=ar&i=109151*

## Чорны дзень беларускай гісторыі

Сёньня – адзін з найбольш чорных дзён у гісторыі Беларусі, гадавіна таго, што ўлада называе «рэфэрэндумам», - мяркуе Сяргей Навумчык, дэпутат Вярхоўнага Савету 12 скліканьня РБ.

Днямі адзін мой калега выказаўся ў тым сэнсе, што дрэнна, калі апанэнты з абодвух бакоў называюць сьцягі анучамі (за пару дзён да гэтага кіраўнік фэдэрацыі хакея назваў бел-чырвона-белы сьцяг анучай, а я ў фэйсбуку назваў анучай лукашэнкаўскі, чырвона-зялёны).

Перакананы: ставіць побач нацыянальны сьцяг і лукашэнкаўскі - нельга. Гэтак жа сумнеўна выглядаюць і банэры з выявай бел-чырвона-белага сьцяга і чырвона-зялёнага разам і слоганам «Мы адзін народ».

Для мяне чырвона-зялёны сьцяг - не толькі ніякі не дзяржаўны, бо быў ён вывешаны праз цалкам нелегітымны «рэфэрэндум», праз зьбіцьцё нас, дэпутатаў БНФ, у залі парлямэнту, праз масавыя фальсыфікацыі і татальную прапагандысцкую хлусьню. Гэта яшчэ - і сымбаль дыктатуры, якая некалькіх апанэнтаў забіла, тысячы адправіла за краты, сотні выціснула ў эміграцыю, зьнішчыла свабоду слова і ўсе тыя заваёвы дэмакратыі, якія з такой цяжкасьцю былі дасягнутыя ў пачатку 1990-ых гадоў, нарэшце, стварыла пагрозу незалежнасьці самой дзяржавы. Вельмі сымбалічна, што той жа самы «рэфэрэндум» паставіў крыж на дзяржаўнасьці беларускай мовы (спадзяюся, толькі часова). І таму чырвона-зялёны - гэта ніякі не беларускі сьцяг. Гэта антыбеларускі сьцяг. І тое, што «частка грамадзтва яго прыняла» – ня можа быць аргумэнтам. Нават калі гэтая частка і складае 90 працэнтаў. Ды нават калі б яна склала 100 працэнтаў.

У нацысцкай Нямеччыне сьцяг са свастыкай прымалі практычна 100 працэнтаў (нязгодныя эміґравалі, тых, хто не пасьпеў - адправілі ў газавыя камэры). Свастыка была дзяржаўным сымбалем Нямеччыны. Са свастыкай выдаваліся пашпарты, пад свастыкай маршыравалі, пад свастыкай нараджаліся, вучыліся, пад свастыкай паміралі.

Ці была свастыка сымбалем нямецкага народу?

Не, свастыка была ганьбай нямецкага народу.

І ў момант падзеньня гітлераўскага рэжыму свастыка была зьдзёртая з флагштокаў, як ануча.

І нікому не прыйшло ў галаву памясьціць яе ў музэях на той падставе, што са свастыкай зьвязаная частка гісторыі Нямеччыны («Сталин и красный флаг - это ведь часть нашей истории»), ці пад свастыкай, да прыкладу, нямецкія спартоўцы заваёўвалі алімпійскія мэдалі, альбо былі пабудаваныя аўтабаны («Не все только плохое в истории Германии связано с известным Адольфом Гитлером»).

Пад свастыкай па вуліцы Бэрліну ці Мюнхэну вы пракрочыце роўна столькі, колькі трэба, каб да вас дабраўся бліжэйшы паліцэйскі. Хаця, хутчэй, вас спыняць звычайныя прахожыя. Далей – суд.

Нямецкі народ выціснуў з сябе нацызм разам з ягонымі сымбалямі.

Зрэшты, пагаджуся з тым, што называць чырвона-зялёны сьцяг анучай - не зусім карэктна. Ануча - рэч у гаспадарцы неабходная. А чырвона-зялёны лукашэнкаўскі сьцяг - гэта сымбаль антынцыянальнага, антычалавечага рэжыму і месца яму – на сьметніку гісторыі, там, дзе дагнівае свастыка Адольфа.

*charter97.org/be/news/2013/5/14/69174/*

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»